№2(6)
1999 г.
кастрычнік

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



## Барысаў - наш агульны дом



## Звычайная гісторыя

Гэта гісторыя не пра злачынства, не пра каханне, не пра лёс асобы, гэта гісторыя пра звычайны дом.

Знаходзіцца па праспекце Рэвалюцыі двухпавярховы будынак сярод зялёнай кроны дрэў і кустоў. Раней на гэтым месцы стаяў жылы барак. Як жылі? Жыццё, як ў камуналцы, было навідавоку кожнаму. На вачах расла і дзяўчынка Зіначка, гуляла ля вялізнай ліпы, марыла пра асобны пакой, дзе будуць збірацца дзеці - «вучні», а яна, «настаўніца», будзе весці ўрок. Мара здзейснілася...

Замест барака ў 1961 годзе быў узведзены дзіцячы садок. На працягу 36 гадоў кожнай раніцай расчыняліся дзверы для дашкалят. Вось ужо былыя выхаванцы вядуць за руку сваіх дачок і сыноў - яны ўпэўнены - тут любоў, клапатлівасць, пяшчота пасяліліся назаўжды. Сцены гэтага ўтульнага дома пранікліся вясёлым звонкім дзіцячым гоманам.

Прайшоў час... Зараз, калі мы спынімся ля будынка, шыльда нам пасведчыць, што тут размясціўся дыягностыка-рэабілітацыйны цэнтр «Роднічок», сімвалам якога з'яўляецца цвітучая пад сонечнымі яскравымі промнямі кветачка, ля якой бяжыць звонкая чыстая крынічка. Так цяпло сэрцаў, шчырасць душ, вера, надзея, любоў аб'ядноўвае дарослых і дзяцей. Супрацоўнікі: настаўнікі - дэфектолагі, педагогі - псіхолагі, выхавальнікі, інструктар - рэабілітолаг, урач - неўрапатолаг, дзіцячы псіхіятр, медыцынскі і абслугоўваючы персанал на чале з дырэктарам цэнтра Шутко В.М. аказваюць дапамогу бацькам, якія маюць дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця (парушэнне мовы, зроку, слыху, апорна - рухальнага апарату). Наведваюць групы дзённага прабывання дзеці, якія не маюць магчымасці знаходзіцца ў агульнага і спецыялізаванага тыпу дашкольных і школьных установах. Тут яны знайшлі не толькі дарослага - настаўніка, дарослага - сябра, але і дзіцячую суполку.

Сувязь часу...Мабыць ёсць у гэтых словах нешта магічнае. Ці не праўда?

*Міхаліна.*

## Экспедыцыя

*З 5 па 12 ліпеня на Беларусі прайшоў першы этап комплекснай экспедыцыі «Залатое руно Панямоння». У экспедыцыі прымаў удзел і наш зямляк, настаўнік фізікі беларускай гімназіі Касцюкевіч Аляксандр Іванавіч. Зараз ён адказвае на нашы пытанні.*

**- Калі ласка, крышачку аб самой экспедыцыі?**

У гэтым годзе Беларускае Геаграфічнае Таварыства і Беларускае сацыяльна-экалагічнае аб'яднанне «Зялены свет» арганізавалі першы этап экспедыцыі, якая павінна была весці збор, апрацоўку і давядзенне да шырокіх колаў грамадскасці экалагічнай, краязнаўчай і этнаграфічнай інфармацыі па Верхнім Панямонні.

Стартаваўшы ў Стаўбцах, удзельнікі экспедыцыі прайшлі ўніз па Нёмане на байдарках больш за 200 кіламетраў. На шляху рабілі прыпынкі, збіраючы патрэбныя матэрыялы.

**- Вашы ўласныя ўражанні ад убачанага.**

- Прыняўшы удзел у экспедыцыі, я яшчэ раз пераканаўся ў тым, што наша дзяржава нічога не робіць для захавання спадчыны. Вельмі шмат помнікаў гісторыі разбураецца, знішчаецца і нікому няма да гэтага справы. Выдатныя архітэктурныя будынкі 17-19 ст. пераўтвараюцца ў склады, дзіцячыя садкі, а то і наогул кінутыя, забытыя. Напрыклад, у Шчорсах знаходзіцца знакамітая бібліятэка Іаахіма Храптовіча, грамадскага і палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, які адыграў вялікую ролю ў развіцці асветы і культуры на Беларусі. У свой час у бібліятэцы захоўвалася звыш 10000 кніг, унікальныя творы па гісторыі Літвы, Польшчы, Беларусі, соймавыя акты, каралеўскія лісты і г. д. У бібліятэцы працавалі А. Міцкевіч, У. Сыракомля, Я. Чачот. Дык вось, зараз сам будынак бібліятэкі паціху разбураецца, нягледзячы на тое, што да сённяшняга часу ён надзвычай захаваўся і, на мой погляд, не патрабуе вялікіх грошай на рэстаўрацыю. Такіх прыкладаў зашмат. Гэта і Любчанскі замак, і царква ў Ляхавічах, і уніяцкая царква ў Бярэжна.

**- На мой погляд такая экспедыцыя не толькі напружаная праца, але і добры адпачынак.**

-Зразумела. Падабралася вельмі цікавая кампанія. На працягу экспедыцыі мы лавілі рыбу, купаліся. Зашмат было і смешных выпадкаў. Так праплываючы каля чарговай вёскі, наша байдарка трапіла ў рэшткі старога маста. Моцная плынь не дазваляла нам вызваліцца ўласнымі намаганнямі. Пад рогат мясцовых жыхароў нас вызвалялі іншыя ўдзельнікі экспедыцыі.

**-Будзе працяг экспедыцыі?**

-У наступным годзе будзе праведзены другі этап экспедыцыі, склад якой будзе значна пашыраны. Таксама будзе павялічаны маршрут і праведзены больш дэталёвыя даследаванні. Магчыма, да удзелу будуць прыцягнуты людзі, ад якіх непасрэдна залежыць прыняццё рашэнняў па захаванню помнікаў гісторыі і культуры, экалагічнай чысціні Панямоння.

*Гутарку вёў С.Нялюбін.*

## Спадчына

Спадчына... Пра яе думаў чалавек спакон веку. Апрацоўваючы зямлю, даглядаў жывёлу, будаваўся, гадаваў і выхоўваў дзяцей, наладжваў узаемаадносіны з суседзямі і з усім навакольным светам, святкаваў святы, весяліўся, смуткаваў - і ўвесь час думаў, турбаваўся: а што ад яго пяройдзе, перадасца ў спадчыну. Чалавек хацеў, каб яго дзеці былі шчаслівейшымі, чым ён сам, і таму стараўся пакінуць ім як мага больш: і тое, што стварылі рукі і тое, што напрацавала душа. І яшчэ тое, што дала яму для карыстання сама прырода, зямля, на якой ён нарадзіўся і жыў.

Шмат работы чакае ўсіх, хто сур'ёзна, не на словах, а на справе, хоча клапаціцца пра нашу вялікую і прыгожую спадчыну. Але вялікая работа ў імя вялікай мэты абуджае вялікае натхненне. Гэтую працу неабходна рабіць дзеля таго, каб нашчадкі нашы «людзьмі між людзей пачуваліся», каб ведалі гісторыю сваёй зямлі, зямлі сваіх продкаў, бо чалавек без мінулага не мае будучыні. Каб радаваліся багаццям - скарбам роднай зямлі, каб удзячны былі сваім продкам за тое, што зберaглі і захавалі яе жывыя крыніцы - нашу святую спадчыну.

*В.Капыток.*

## 80-гадовы юбілей

Перад намі копія пратакола № 26 паседжання Калегіі Аддзела Народнай адукацыі пры Выканаўчым камітэце Барысаўскага Савета Сялянскіх, Рабочых і Чырвонаармейскіх дэпутатаў ад 10 лютага 1919 года.

Кароткія радкі, якія пачынаюцца словамі «слухай» і «вырашай». Дакумент сведчыць аб адкрыцці ў Барысаве школ новага тыпу. Сярод іх - школа № 1. З дакумента відаць, што першапачаткова яна размяшчалася ў памяшканні былога вышэйшага пачатковага вучылішча на Міхайлаўскай вуліцы. Першымі настаўніцамі накіроўваліся Лапкевіч, Фільчэўская, Цемсына, Грышчук, Пячорына, Мазінг і Нікіфаровіч.

*М.Пучыла.*

## Неспадзяванае заканчэнне

Усе мы ведаем з дзяцінства асаблівую асалоду і рамантыку дзіцячых летнікаў. Цьмяныя ўспаміны дзяцінства малююць нам незабыўны водар лесу, які атачаў летнік, у які завезлі нас нашыя бацькі падчас летніх вакацыяў. Уся наша існасць пры гэтым цягнецца ў час пачатку ўласнага жыцця, калі не было амаль ніякіх турбот і засёды было весела.

Такія станоўчыя ўражанні атрымалі барысаўскія дзеці, якія на пачатку жніўня адпачывалі звыш тыдня ў харцырскім летніку каля Гародні. Восем хлапчукоў і дзяўчынак, якія тым ці іншым чынам вывучаюць польскую мову і ўдзельнічаюць у барысаўскім дзіцячым польскім ансамблі польскай песні і дэкламацыі, цудоўна бавілі час каля Горадні. Многія чытачы чулі пра харцэрскі рух у братняй Польшчы яшчэ пры камуністычных часах. Харцэры былі блізнятамі савецкіх піянераў. Але зараз у дэмакратычнай Польшчы харцэрскі рух больш нагадвае вядомы ва ўсім свеце скаўцкі рух. Функцыянеры харцэрскага руху дапамагалі стварыць сумесны беларуска - польскі дзіцячы летнік, у якім у гульнях і спартовых спаборніцтвах цудоўна бавілі час і барысаўскія дзеткі.

Але агульны ўзнёслы настрой быў сапсаваны неспадзяваным змрочным заканчэннем. Чамусьці мясцовыя гарадскія чыноўнікі палічылі ў самы разгар працы і адпачынку, што летнік не адпавядае санітарным нормам. Урачы з санэпідэмстанцыі загадалі неадкладна разабраць усіх дзяцей па дамах. Старшыня барысаўскага гарадскога аддзела Саюза палякаў Беларусі (СПБ) спадарыня Ірына Сакавец мусіла тэрмінова выехаць на аўтобусе ў Горадню, каб забраць нашых дзетак. У многіх сяброў Саюза палякаў Беларусі склалася ўражанне, што такое наспадзяванае заканчэнне з'яўляецца праявай хутчэй непрыхаванай непрыязні тамтэйшых чыноўнікаў да СПБ, чым неабходнасцю выканання санітарных нормаў.

*А.Абрамовіч, сябра праўлення барысаўскага гарадскога аддзела СПБ.*

## Залежыць ад кожнага

Не сакрэт, што ў наш час экалагічны стан зямлі можа быць ахарактарызаваны як крызісны. Кожны з нас, задумваючыся над гэтай глабальнай праблемай, лічыць сябе няздольным штонебудзь змяніць. Аднак забруджванне акаляючага асяроддзя - вынік умяшання чалавека ў прыроду, і адказнасць за гэта ляжыць на нас усіх. Але канстатаваць факт у гэтым выпадку недастаткова. Мы, вядома, не можам спыніць гэты працэс, але зменшыць яго негатыўны ўплыў у нашых сілах.

Да прыкладу, Барысаў наўрад ці можна назваць узорна чыстым. І абавязак кожнага жыхара прыкласці ўсе намаганні, каб змяніць гэта. Бо наш горад - наш твар, наша культура. А кожнага чалавека, які кідае дзе папала смецце, за руку не схопіш ды і штрафамі ў нас за гэта не абкладаюць.

Неабходна ўсведамляць, што чысціня залежыць як ад усяго грамадства ў цэлым, так і ад кожнага з нас у прыватнасці. Ад нас не патрабуецца гераізму і подзвігаў: пачнём з малога - не будзем смяціць. Бо гэтая, на першы погляд, дробязь вядзе ў выніку да глабальных наступстваў. Але калі кожны чалавек зразумее ўсю складанасць гэтай праблемы, то, безумоўна, будзе надзея на лепшую, па-сапраўднаму «светлую» будучыню.

*М.Сіткоўская.*

## Гарады і людзі

*Нядаўна карэспандэнт газеты «Гоман Барысаўшчыны» В.Пчолка знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Польшчы ў горадзе Галеноў, дзе знаёміўся з умовамі працы і станам тамтэйшай рэгіянальнай прэсы. Сёння мы прапануем вам яго ўражанні аб убачаным у нашых заходніх суседзях.*

Goleniowska Gazeta

Białoruscy goście

Супрацоўнік нашай газеты В.Пчолка (на здымку злева) на першай старонцы мясцовай газеты г.Галінова

Гарады, як і людзі, нараджаюцца і жывуць сваім непаўторным жыццём. Яго працягласць для людзей значна меней, чым для гарадоў. Таму ў маўклівых будынках, дрэвах і кожным камені захоўваецца цеплыня рук розных пакаленняў жыхароў горада, якія стварылі яго гісторыю і самі з'яўляюцца яе часткай. Менавіта таму кожны горад непаўторны і мае свaeасаблівае аблічча.

Галенаў знаходзіцца на захадзе Польшчы і мае насельніцтва каля 20 тысяч чалавек. Што адразу ўражвае? Спачатку кожныя дробязі, вопратка службовых асоб, шыльды, мова, іншы дызайн тэхнікі, архітэктура і інш... З цягам часу да ўсяго гэтага прывыкаеш і ўспрымаеш яго як звычайнае, нібыта так і павінна быць - чысціня, прыгожыя будынкі, газоны, кветкі, ветлівасць прадаўцоў, усмешкі на тварах людзей.

Што датычыцца ўзроўню жыцця - мяркуйце самі. Асартымент у харчовых крамах можна параўнаць па прыкладзе зразумелага ўсім тавара - каўбасы. Дык вось, любая невялічкая тамтэйшая крама памерам аддзела нашага гастранома ці

(Працяг на 2-й стар.)

## Наперад - у рэзервацыі?

Шматлікія праблемы паўстаюць на Барысаўшчыне перад тым, хто глыбока паважае і на справе шануе тую велізарную культурную спадчыну, што напрацавалі для нас за стагоддзі і нават тысячагоддзі нашы продкі. Гэта мова, шматлікія матэрыяльныя каштоўнасці і іншыя помнікі даўніны, а таксама ўсё хараство і багацце навакольнай прыроды.

Найбольш яскрава стаўленне людзей да культурнай спадчыны бачна на адносінах да мовы, як падмурка культуры наогул. Які жа яе стан у нашым краі?

Сённе сярэднюю адукацыю на роднай мове ў Барысаве можна атрымаць толькі ў беларускай гімназіі. Вышэй сярэдняй - немагчыма набыць увогуле. Надпісы па-беларуску на шыльдах, у крамах і ў іншых месцах сустрэць або немагчыма, або амаль немагчыма. Утвараемую моўную пустэчу з поспехам запаўняе «трохпавярховы» мат. Ён у спалучэнні з паўсюднай трасянкай робіць жыццё тутэйшага беларускамоўнага жыхара больш падобным на спробу выжывання ў неспрыяльным агрэсіўным асяроддзі. У падобным становішчы знаходзяцца і ўсе астатнія элементы нашай культуры.

Складаецца ўражанне, што мы ўжо дайшлі да той мяжы, калі тутэйшую культуру могуць выратаваць толькі рэзервацыі? Рэзервацыі, дзе не трэба было б нікому даказваць неабходнасць захавання беларускай мовы, а проста жыць і карыстацца ёю паўсюдна. Дзе б захоўваліся, а не знішчаліся помнікі культуры. Дзе б сама культура квітнела, а не была б раздаўлена бытавымі праблемамі. Дзе б нашы багатыя лясы захоўваліся і служылі прыкладам гармоніі і разнастайнасці прыроды, а не высякаліся ці паліліся. Дзе б лічылася немагчымым кіданне дзе папала смецця. Дзе б... Гэтых "дзе б..." можна было б прывесці яшчэ вельмі шмат. У такой рэзервацыі знайшлося б места не толькі носьбітам беларускай, але і польскай, яўрэйскай, татарскай, рускай і іншых культур.

Вы не захацелі б жыць у такой рэзервацыі? Я - са здавальненнем. Дык што, на Барысаўшчыне надышоў час утварэння беларускіх рэзервацый?

*В.Стэфановіч.*

# Гарады і людзі

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)*

кулінарыі мае столькі найменаванняў каўбас, што іх асартымент ва ўсім Барысаве разам з «ліверкай» і «крывянкай» усё роўна не складзе і палову ад таго. Кошт каўбасы ў Польшчы - ад 5 да 27 злотых, што складае ад 550 тысяч да 3 мільёнаў беларускіх рублёў. Пры гэтым пенсія ў Польшчы не менш за 300 даляраў, а заробак некваліфіцыраванага рабочага - 400 даляраў. Адзін абед у простай сталовай каштуе ў перакладзе на рублі - 600000 - 1000000. Цыгарэты самыя танныя - каля 300000 за пачку. Бутэлька гарэлкі каштуе 4,5 млн. Руб. Кошт на адзенне такі ж як і ў нас, ці на 20-30% меней. І гэта ўсё пры вялікім выбары.

Вонкава пальскія гарады значна адрозніваюцца ад беларускіх. У Галенове кідаюцца ў вочы прыгожыя сядзібы. Там нават звычайнаму непрыкметнаму дому надаюць прывабны выгляд кветкі, розныя дрэўцы, кустарнікі, акуратныя газоны, дарожкі, якія выкладаюць пліткамі на любы густ. І ўсё гэта за невялікай, сімвалічнай агароджай. Менавіта ў невялікіх гарадах і мястэчках у асобным доме марыць жыць большасць палякаў.

Мне даводзілася быць у гасцях, мець магчымасць пазнаёміцца з жыццём простых людзей сярэдняга дастатку.Сям'я займае першы паверх двухпавярховага дома. Ля дома гараж. У доме абстаноўка вельмі простая і ў той жа час выкананая з вялікім густам. Гаспадар - Лешык Азіміч - галоўны рэдактар мясцовай газеты. Сваю справу ён пачынаў гадоў дзесяць таму. Першыя нумары газеты нагадвалі нешта падобнае на улётку. Прадаваў яе сам.Сёння газета выходзіць на 24 старонках і дае працу больш чым для дзясятка чалавек. Калісьці Лешыку дапамагалі, далі грошай, каб пачаць свой бізнес. Сёння ён хоча пашырыць сваю справу праз фундацыю і адкрыццё філій у пяці бліжэйшых мястэчках. Такім чынам за адносна невялікі тэрмін Лешык знайшоў сабе цікавую справу, склаў шчаслівую сям'ю, мае двух дзяцей, набыў дом, машыну, ні ў чым не мае патрэбы.

Сярод палякаў значнае месца займае вера. Людзі з павагай ставяцца да рэлігійных нормаў жыцця. Так, шлюб заключаюць тут спачатку ў касцёле, а пасля афармляюць у ЗАГСе.

Многія еўрапейскія гарады пасля другой сусветнай вайны ўзняліся з руінаў, аднавілі свой першапачатковы выгляд ці ў крайнім выпадку найбольш каштоўныя гістарычныя будынкі. Падобнае было і з Галеновым. Безумоўна, прасцей было забудаваць горад сучаснымі будынкамі, як гэта рабілася ў нас. Але ў Польшчы так не рабілі, бо пры гэтым парывалася б сувязь пакаленняў. Так, разбураны падчас вайны касцёл, ад якога заставаліся толькі падмуркі і фрагменты сцен, змаглі аднавіць толькі ў 60-х гадах. Ці не праўда, які кантраст у параўнанні з Барысаўшчынай?

Знаёмства з Галеновым пакінула шмат уражанняў. Абмежаваны аб'ём газеты не дазваляе распавесці аб усіх з іх. Паміж жыхарамі Галенова і Барысава шмат як агульнага, так і рознага. Але галоўнае адрозненне - яны зрабілі свой выбар, які грунтуецца на традыцыях і сувязі пакаленняў, а мы зрабілі першы крок і спыніліся.

***В.Пчолка.***

# Праспект князя Трубяцкога

Як вядома, праспект Рэвалюцыі раней насіў назву праспекта графа Трубяцкога. Аднак якое дачыненне губернатар Трубяцкі меў да Барысава і чаму яго імя насіла адна з галоўных вуліц горада? Гэта пытанне не раз уздымалася на старонках барысаўскіх газет, але заставалася без адказу. Святло на яго можа праліць дакумент, які датуецца 30 чэрвеня 1901 года і падпісаны самім губернатарам графам Трубяцкім. У дакуменце, дарэчы, утрымліваецца шмат цікавых звестак аб тагачасным Нова-Барысаве. Вось змест гэтага дакумента (даецца ў скарачэнні).

«У прадстаўленні ад 9 сакавіка 1898 года за № 1145. Мною былі паведамлены звесткі аб мястэчку Нова-Барысаў, пры чым дакладзена гаспадзіну Міністру, што Барысаўскае Гарадское Грамадскае кіраванне, усведамляе неабходнасць уключыць гэта мястэчка, для правядзення ў ім добраўпарадкавання, у мяжу горада Барысава. У мяжу Нова-Барысаў увайшлі землі маёнтка Стара-Барысаў, іх Імператарскіх Вялікасцей Вялікіх Князёў Мікалая Мікалаевіча і Пятра Мікалаевіча, двараніна Івана Каладзеева, наследнікаў Бялінскіх, Слізеня, Гутмана, Янкоўскага, Мазо, Славінскага.

У мястэчку гэтым акрамя войск, зараз жыхароў 5765 чалавек, а менавіта: праваслаўных 3730, каталікоў 950, пратэстантаў 130, стараабрадцаў 41, яўрэяў 872, магамецян 42, у тым ліку дваран 242, ганаровых грамадзян 19, мяшчан 3200 і сялян 2304. Галоўныя заняткі жыхароў - праца на фабрыках,, пагрузка і разгрузка тавараў на прыстані ракі Бярэзіны і на чугунцы. У мястэчку маецца пабудоў: мураваных - 15, драўляных - 560. Пабудова іх ніякай уладаю не дазвалялася. Гандлёва - прамысловых установаў у мястэчку 59. З урадавых і грамадскіх установаў у мястэчку Нова-Барысаў маюцца:

а) казармы 49-га драгунскага Архангела - гарадскога і 50-га Іркуцкага палкоў;

б) штаб 1-ай Асобнай кавалерыйскай брыгады;

в) склад фуражу вышэйназванай брыгады;

г) чыгуначная станцыя Барысаў;

д) кіраўніцтва начальніка 7-га участка Маскоўска - Брэсцкай чыгункі;

е) казённы вінны № 8 ачысны склад;

ж) царкоўна - прыхадская школа;

з) паштова - тэлеграфная кантора;

і) цэнтральная тэлефонная станцыя;

к) яўрэйская малітоўная школа.

Жыхары мястэчка Нова-Барысаў ніякіх збораў на карысць землеўладальнікаў, акрамя арэнды на зямлю, не ўплочваюць, землямі агульнага карыстання, як то: вуліцамі, завулкамі, плошчамі і інш. карыстаюцца без усякіх умоў.

Паведамляючы аб вышэйвыкладзеным на разгляд Гаспадарчага Дэпартамента, маю гонар прасіць зрабіць распараджэнне аб уключэнні мястэчка Нова-Барысаў у мяжу горада Барысава, згодна плану, які зацверджаны 7 чэрвеня 1900 года»

Такім чынам, з прыведзенага дакумента відаць, што менавіта Мінскі губернатар граф Трубяцкі быў ініцыятарам аб'яднання Нова-Барысава і Барысава ў адзін горад. Таму і невыпадкова, што адна з галоўных вуліц горада стала насіць яго імя.

***Н.Раховіч,***
***дырэктар Барысаўскага аб'яднанага музея.***

# Барысаўскія батарэі

Бясспрэчна, кожны жыхар Барысава ведае Батарэі - славутасць нашага горада. Менавіта Батарэі - адзін з куткоў, які захаваў памяць аб вайне 1812 года. Многія прыходзяць сюды адпачываць, паслухаць спеў птушак і палюбавацца на цудоўныя краявіды, але далёка не кожны ведае, што ж адбывалася тут амаль два стагоддзі таму.

Набліжалася вайна. Каб забяспечыць Маскве і яе жыхарам спакойнае жыццё, камандаваннем царскай арміі было вырашана пабудаваць каля Барысава ўмацаванне. У лютым 1812 года на правым беразе ракі Бярэзіна пачалося будаўніцтва. З гэтай мэтай была выклікана каманда сапёраў на чале з падпалкоўнікам Сазонавым, а дапамагалі ім гараджане і жыхары навакольных вёсак. Моцна змяніўся тагачасны мясцовы ландшафт: спачатку амаль на кіламетр высеклі ўвесь лес, а потым пачалі насыпаць земляныя валы. Планавалася пабудаваць два рэдуты - усходні і заходні, якія б злучаліся ўнутранай абарончай агароджай .

Але да пачатку вайны Батарэі не паспелі дабудаваць, і таму абарончай ролі яны не адыгралі, тым больш Напалеон выбраў іншы маршрут для пакарэння сталіцы Расійскай Імперыі.

Атрымоўваецца, што рускія пралічыліся, бо ўсе мы ведаем далейшы лёс "спалённай пажаром" Масквы. Але вернемся да барысаўскіх падзеяў. Пад час адступлення французаў ад захопленага ў палон афіцэра напалеонаўскай арміі стала вядома, што адна з саюзных ім дывізій пад камандваннем генерала Дамброўскага накіроўваецца да Барысава, каб заняць



Батарэі і забяспечыць паспяховую пераправу праз Бярэзіну галоўных сілаў арміі. Але іх плану не суджана было ажыццявіцца. Калі чатырнаццаты егерскі полк Красоўскага наблізіўся да правага рэдута, французкі часавы прызнаў яго за адстаўную калону сваіх войскаў і не ўзняў трывогі. У выніку Красоўскі авалодаў умацаваннем без вялікіх страт.

Праз некалькі дзён пасля падзей на Батарэях Напалеон быў вымушаны спешна наводзіць пераправу каля вёскі Студзёнка.

У 1926 годзе Батарэі былі прызнаны помнікам гісторыі і абвешчаны дзяржаўнай маёмасцю. У 1985 годзе тут устаноўлены помнік і мемарыяльная дошка, якая распавядае пра тыя далёкія падзеі, што схаваліся за сцяной гісторыі.

***А.Яшчанка.***

# «Чортаў мосцік»

Часта (у тым ліку і ў нашым ) горадзе людзі карыстаюцца цікавымі народнымі назвамі мікрараёнаў, магазінаў ці нават прадпрыемстваў. Адной з такіх назваў з'яўляецца шырока распаўсюджаная неафіцыйная назва 2566 рамонтнага завода "Чортаў мосцік". На юбілейным вечары завода давялося пачуць наступнае тлумачэнне яе паходжання.

Як быццам у гэтым месцы ў апошнюю вайну знаходзіліся нямецкія хімсклады. Шлях да іх ішоў праз брудную мясціну па драўлянаму мосціку, які з-за сваёй хісткасці быў празваны "чортавым". Пазней гэта назва перайшла да завода, які з цягам часу ўзнік на гэтым месцы.

***М.Пучыла.***




Мал.Л.Гадуна

# Знішчаная пушча

Пэўна няма на Беларусі чалавека, які б нічога не ведаў пра Белавежскую або Налібоцкую пушчы. А каму даводзілася што чуць пра Барысаўскую пушчу? Відаць, нікому. Ці, дакладней, толькі тым, хто знаёміўся са старажытнымі дакументамі.

У старыя часы Барысаўская пушча была добра вядома ў Вялікім княстве Літоўскім. Яна славілася сваімі багатымі і бязмежнымі лясамі. Аднак празмерная іх высечка прывяла да яе вынішчэння. Нават сам тэрмін "Барысаўская пушча" да XIX стагоддзя практычна сышоў з ужытку. Найбольш позняе яго ўзгадванне адносіцца да 1863 года, калі пры ўказанні месца бою паміж паўстанцамі і царскімі войскамі называецца вёска Поруш у Барысаўскай пушчы. На жаль, вёска з такой назвай ужо даўно не існуе. Вызначыць яе былое месца знаходжання, як і акрэсліць межы былой пушчы, зараз практычна немагчыма.

Такім чынам адна з найвялікшых пушч на Беларусі знішчана назаўсёды, а паўсюднае бязлітаснае знішчэнне яе рэшткаў працягваецца...

***М.Мацельскі.***

# Яго ведаюць у Францыі, Нямеччыне, Галандыі...

З 1984 г. у нашым горадзе жыве цікавы, неардынарны чалавек, Аркадзь Патапавіч Новік. Барысаўцы неаднойчы знаёміліся з творчасцю гэтага таленавітага мастака на выставах яго работ са шкла, апошнія з якіх мелі паэтычную назву "Кветкі і сэрца - Радзіме". Вельмі трапная назва, таму што ў ёй адлюстроўваецца ўвесь светапогляд майстра. Яму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны і ўсяго беларускага. Ён заўсёды гатовы дапамагчы любому чалавеку, ахвотна перадае сакрэты майстэрства сваім вучням (на жаль, у час працы на барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва, кіраўніцтва не дапамагло яму ў такой высакароднай справе). І Аркадзю Патапавічу давялося гэта рабіць у сваёй аднапакаёвай кватэры, дзе і зараз ён працуе і жыве разам з жонкай, маленькімі сынам і дочкай.

Самаадданая праца дала свой плён. Пасля шматлікіх выстаў Аркадзь Патапавіч у 1990 г. быў прыняты ў Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь. Яго творы знаходзяцца ў розных музеях і прыватных калекцыях Беларусі, а таксама Нямеччыны, Францыі, Галандыі, Кітая, Індыі, ЗША і іншых краін свету.

Але шлях па жыцці і да такога майстэрства быў вельмі няпростым. Нарадзіўся Аркадзь Патапавіч у сяле Вялікія Літвінавічы Гомельскай вобласці. Ваеннае дзяцінства і жыццё ў партызанскім лагеры пакінула шмат цяжкіх успамінаў, на аповед пра якія не хапіла б і ўсіх старонак гэтай газеты. У пасляваенныя гады,



пасля заканчэння сямігодкі, была вучоба ў ветэрынарнай школе, затым чатырохгадовая служба на флоце, праца манцёрам на электрастанцыі ў г.Полацку. Але ўвесь гэты час прываблівала да сябе чароўны свет мастацтва. У рэшце рэшт ён дасягнуў сваёй мэты. Пасля вучобы ў завочным Маскоўскім народным універсітэце культуры ім.Крупскай ён здаў уступныя іспыты і быў залічаны на вучобу ў Ленінградскае мастацкае вучылішча. Пасля трэцяга курса гэтай установы паступіў на вячэрняе аддзяленне Ленінградскага Вышэйшага мастацка-прамысловага вучылішча імя В.Мухінай і пасля шасцігадовага навучання атрымаў спецыяльнасць мастака па кераміцы і шклу. Затым была напружаная праца, пошукі стылю, удасканаленне майстэрства.

Вельмі шкада, што чалавек з такім талентам і па сённяшні дзень не мае сваёй майстэрні. Застаецца толькі спадзявацца, што надыдзе той час, калі і ў нас будуць шанаваць такіх людзей і ствараць ім усе умовы для творчай працы на карысць нашай Беларусі.

***Л.Гадун.***

# Тутэйшы кнігазбор

*За апошнія гады ў лік пісьменнікаў, якія цікава і плённа працуюць у розных тэматычных і стылёвых накірунках, вылучыўся наш зямляк Юры Станкевіч. Уражвае шырокі дыяпазон яго твораў (ад лубачных да постмадэрнісцкіх), якія з'яўляюцца арганічным сплавам сатыры, містыкі, прыгод, філасофіі..., але ў аснове сваёй яны... рэалістычныя. Пісьменнік пільна ўглядаецца ў наша жыццё, з трывогай бачыць многа негатыўнага ў грамадстве, у асобным чалавеку. І аб гэтым піша...*

**«Луп».** Бібліятэка часопіса «Маладосць», 1989 г., наклад 2218 асобнікаў.

**«Анёлы на бальшаку»**. Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1993 г., наклад 3300 асобнікаў.

Аповесць **«Прузі»** («Полымя», № 7, 1996 год).

Аповесць **«Рыфма»** («Маладосць», № 7, 1996 год).

Аповесць **«Псеўда»** («Крыніца», № 7, 1997 год).

Раман **«Любіць ноч - права пацукоў»** («Крыніца», № 9, 1998 год).

Аповесць **«Бесапатам»** («Крыніца», № 6, 1999 год).

# Прыродная лякарня

У гэтым нумары «ГБ» размова пойдзе пра глог і звычайную капусту. Гэта расліны, якія не трэба доўга шукаць ці плаціць за іх вялікія грошы.

Глог (баярышнік) - прыгожае дрэва або хмызняк. У верасні на ім выспяваюць смачныя чырвоныя плады. На Барысаўшчыне гэтая лекавая расліна сустракаецца даволі часта. Людзі ўпрыгожваюць глогам свае сядзібы, але не ўсе ведаюць, якую карысць можа прынесці ён здароўю. З лекавай мэтай выкарыстоўваюць плады і кветкі глога. Плады збіраюць у верасні, кастрычніку. Высушваюць на сонцы ці ў сушылках. Адвар пладоў зніжае ўзбуджанасць нервовай сістэмы, танізуе сардэчную мышцу, узмацняе кровазварот у сасудах сэрца і мозгу, паніжае крывяны ціск, здымае болевыя адчуванні ў вобласці сэрца, галаўны боль. Можна ўжываць плады глога ў свежым або замарожаным выглядзе.

Даўно вядомая ўсім капуста (і сырая, і кіслая) павышае апетыт, паляпшае страваванне, з'яўляецца прафілактычным сродкам ад цынгі, лечыць вадзянку і падагру. Свежы сок з цукрам ці медам добра дапамагае ад кашлю, хрыпаты,пры хваробах селязенкі і жаўтухі, пры нервовых хваробах. Акрамя таго капусны сок садзейнічае рубцаванню язвы страўніка, паляпшае абмен рэчываў, дапамагае пры зніжанай кіслотнасці, выводзіць з арганізма халестэрын. Апошнія даследаванні паказалі, што ўжыванне капусты зніжае небяспеку развіцця раку страўніка і кішэчніка, а таксама малочнай залозы. Свежыя лісты прыкладаюць пры галаўным болю.

Карыстайцеся гэтымі простымі, але надзейнымі лекамі. Будзе здароўе - будзе ўсё! Дапамажыце сабе самі.

***І.Магуш.***

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у №1 за 1996 г., №1,2 за 1997 г., №1 за 1998 г. і №1 за 1999 г.)*

## Тутэйшыя землі ў сярэдзіне - другой палове XV ст.

Ад грамадзянскай вайны 30-х гадоў XV ст. для Барысаўшчыны наступіў мірны перыяд, хаця наша дзяржава то на захадзе, то на ўсходзе мела пэўныя вайсковыя дзеянні. Напрыканцы XV ст. усходні сусед нашай дзяржавы - Маскоўскае княства пачало набіраць моц і стала праводзіць палітыку аб'яднання пад сваім пачаткам ўсіх усходнеславянскіх земляў. У гэты ж час на паўднёвыя беларускія землі пачынаюць рабіць набегі крымскія татары. Вайсковыя дзеянні маскоўцаў і крымскіх татараў, якія мелі месца супраць нашай дзяржавы ў канцы XV ст., Барысаўшчыну абмінулі, чаго нельга казаць аб далейшых падзеях.

## Наш край на пачатку XVI ст.

З 1500 па 1538 год паміж нашай дзяржавай і Масковіяй мелі месца амаль бесперапынныя войны. У 1500 годзе маскоўскія войскі пачалі займаць землі і гарады Вялікага княства Літоўскага на Севершчыне, Смаленшчыне і Браншчыне. Наша дзяржава да вайны была не падрыхтавана. Гаспадар Вялікага княства Аляксандр сабраў невялікае войска з трох тысячаў жаўнераў і накіраваў яго пад кіраўніцтвам К.Астрожскага насустрач ворагам. Гэтае войска ў траўні - чэрвені 1500 года рушыла праз Барысаў. Сам Аляксандр з невялічкім атрадам прыйшоў да Барысава і знаходзіўся тут некалькі дзён. У нашым горадзе ён працягваў падрыхтоўку да абароны дзяржавы. Адсюль Аляксандр пайшоў да Бабра, дзе стаў абозам. 14 ліпеня 1500 года Астрожскі са сваімі жаўнерамі прыняў ля Дарагабужа бой з саракатысячным войскам маскоўцаў. У выніку Вялікае княства атрымала моцнае паражэнне. Вялікі князь Аляксандр, калі атрымаў гэтую трагічную вестку, адразу вярнуўся ў Барысаў. Тут ён прыняў маскоўскіх паслоў, з якімі вёў перамовы.

Вялікую перамогу ля Дарагабужа маскоўцы не змаглі выкарыстаць належным чынам. У 1501 годзе Аляксандр змог умацаваць асноўныя абарончая пункты на ўсходзе дзяржавы - Смаленск, Воршу, Віцебск і Полацк і быў гатовы да абароны сваіх земляў. Далейшыя ўзброеныя дзеянні маскоўцаў поспеху не мелі, хаця ў 1502 годзе яны накіроўвалі вайсковыя атрады ўглыб Княства. У тым ліку і ў наш край - на Бярэзіну.

У 1503 годзе было падпісана перамір'е. Вялікае княства Літоўскае згубіла землі з гарадамі Чарнігаў, Бранск, Гомель, Ноўгарад-Северскі і інш. Але поўны мір у нашым краі не наступіў. Крымскія татары, якія яшчэ з канца XV ст. рабілі спусташальныя набегі на паўднёвыя землі сучаснай Беларусі, у 1505 годзе здзейснілі самы спусташальны са сваіх набегаў. Татарскія войскі пад кіраўніцтвам трох сыноў хана ўварваліся на беларускія землі. Старэйшы з царэвічаў Махмет-Гірэй з пяццю тысячамі вершнікаў дайшоў да Менска і стаў каля яго абозам. Адсюль крымскія татары рабілі спустташальныя набегі па аколіцах, а потым рушылі да Полацка, Друцка і Віцебска. Відавочна, што наш край тады не мог абмінуць рабавання і спустошвання. У зіму таго ж года на Барысаўшчыне, як і на многіх землях сучаснай Беларусі, была моцная эпідэмія, якая забрала шмат жыццяў. Паходы ж крымчукоў на беларускія землі мелі месца да 1553 года, але пасля 1505 года асноўныя паходы татараў наш край міналі.

Перамір'е нашай дзяржавы з Масковіяй, якое бало заключана ў 1503 годзе, цягнулася нядоўга. На пачатку 1506 года вялікі князь Аляксандр стаў актыўна дамагацца вяртання страчаных земляў. Аднак дыпламатычныя захады не мелі поспеху. Вялікае княства пачало рыхтавацца да вайны. У 1506 годзе памёр Аляксандр. Замест яго гаспадаром дзяржавы быў абраны Жыгімонт III (Стары), які ў адносінах да Масквы працягваў палітыку Аляксандра, таму маскоўскі гаспадар Васіль III вырашыў апярэдзіць Жыгімонта і першым распачаў вайну. Маскоўцы пустошылі землі нашага гаспадарства. Тады ж была разрабавана левабярэжная частка Барысаўшчыны. Далей за Бярэзіну войскі Васіля III не рушылі, а да канца вясны 1507 года пакінулі межы Вялікага княства Літоўскага. Толькі напрыканцы лета 1507 года войскі нашага гаспадарства, якія ўзначаліў С.Кішка рушылі праз Барысаў да ўсходніх рубяжоў дзяржавы, каб даць адпор ворагам. Далейшыя вайсковыя дзеянні мелі лакальны характар і наш край не закранулі.

Адным з найбольш вядомых і славутых ваяводаў Вялікага княства пры Аляксандры быў М.Глінскі. Аднак пры Жыгімонце Старым ён быў абалганы і абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе. Глінскі змірыцца з гэтым не змог і калі, як яму здавалася, усе цывільныя захады па аднаўленню справядлівасці былі вычарпаны, на самым пачатку 1508 года ён узняў бунт. Масковія не магла ўпусціць такі шанец і адкрыта падтрымала Глінскага. Дзеянні, што мелі месца ў выніку ўзброенага бунту, зноў не мінулі наш край. Вайсковыя дзеянні пачаліся на поўдні тэрыторыі сучаснай Беларусі. У красавіку 1508 года дзеля дапамогі Глінскаму ў Вялікае княства ўвайшлі маскоўскія войскі, частка якіх разам з паўстанскімі атрадамі абклалі Менск. Толькі ў гэты момант Вялікае княства сабрала войска, якое рушыла на абарону земляў гаспадарства. Дадаткова на дапамогу была паслана каля 3 - 4 тысяч польскіх жаўнераў. Ад Менску Глінскі адышоў да Барысава, дзе і знаходзіўся пэўны час. За ім па слядах пайшоў гетман Астрожскі са сваім войскам, што мела месца напрыканцы чэрвеня. З Барысава Глінскі адышоў да Воршы, адкуль разам з маскоўскімі жаўнерамі без уступлення ў бой пакінуў межы Вялікага княства. 8 кастрычніка 1508 года паміж нашай дзяржавай і Масковіяй было падпісана мірнае пагадненне. Але дзейнічала яно не доўга. Ужо ўвосень 1512 года маскоўскі манарх Васіль III аб'явіў вайну Вялікаму княству Літоўскаму.

У кастрычніку 1512 года вялікія сілы маскоўцаў увайшлі на тэрыторыю нашай дзяржавы. Асноўныя іх сілы былі накіраваны супраць Смаленска, а раць І.Рэпіна пустошыла іншыя землі Вялікага княства. Тады ж, на пачатку 1513 года, была падвергнута рабаванню і Барысаўшчына, хаця сам Барысаў узят не быў. Нападу падвергліся мясцовасці аж да Менска. Дробныя паходы маскоўцаў углыб нашай дзяржавы мелі пэўныя поспехі, але не быў узяты аніводны горад і асноўная мэта кампаніі - захоп Смаленска - не была дасягнута. У лістападзе маскоўцы былі вымушаны адысці ў сваё гаспадарства.

## Падзеі 1514 года

Напрыканцы вясны 1514 года 80 тысячнае маскоўскае войска рушыла на нашу дзяржаву. 30 ліпеня быў узяты Смаленск. Гаспадар Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага Жыгімонт Стары, калі даведаўся аб гэтым, неадкладна рушыў да Менска, а потым - да Барысава. Тут ён прызначыў месца збору войска.

На гэты момант ужо былі страчаны гарады Мсціслаў, Крычаў і Дуброўна. Больш таго, маскоўскі гаспадар Васіль III адаслаў перадавы атрад пад Барысаў. Гэта было зроблена з патаемнаю мэтаю заманіць як мага далей Жыгімонта, разбіць яго войска, а самага яго схапіць. Маскоўскія войскі прыйшлі пад Барысаў і сталі на левым беразе Бярэзіны. Вайсковыя атрады Княства, якія толькі падыходзілі з Менска да Бярэзіны, адразу пачалі выстаўляцца ў баявы парадак. Гетман К.Астрожскі, які кіраваў нашымі жаўнерамі, не губляючы час, правёў абстрэл маскоўскага войска з гарматаў, чым нанёс яму вялікую страту. Пасля таго жаўнеры княства перапраўверыліся цераз Бярэзіну і на яе левым беразе ўступілі ў бой з чужынцамі. Гэта мела месца 27 жніўня 1514 года. Падчас бітвы было разбіта некалькі маскоўскіх палкоў. На наступны дзень - 28 жніўня перадавыя атрады войска князя К.Астрожскага мелі паспяховы бой на рацэ Бобр.



Гетман К.Астрожскі

Жыгімонт, калі прыбыў у Барысаў, зрабіў тут апошні агляд войска, якое мела каля 30000 вершнікаў і 3000 пешых жаўнераў. Сюды ж у Барысаў да Жыгімонта Старога прыязджаў пасол Папы Рымскага Леона X Ян Пізо. Пізо меў намер адгаварыць Жыгімонта ад вайсковых дзеянняў супраць Масковіі і схіліць яго да міру. Гаспадар нашай дзяржавы адказаў папскаму паслу, што князь маскоўскі - чалавек недобрасумленны, і што інакш як праз вайну немагчыма забяспечыць спакой вялікага княства з усходу. З такім адказам Ян Пісо і паехаў з Барысава.

У нашым жа горадзе Жыгімонт Стары прыняў патаемных пасланнікаў ад Глінскага. Таго самага Глінскага, на якога некалькі год таму быў узведзены паклёп на радзіме - у Вялікім княстве і які ў 1508 годзе ладзіў узброеныя дзеянні супраць Жыгімонта, а потым пайшоў на службу да Васіля III. Спадзяванні Глінскага на маскоўцаў засталіся марнымі, таму ён вырашыў перайсці на бок Жыгімонта, здаць яму іх войска і дапамагчы вярнуць Смаленск. Гэткія прапановы перадалі ў Барысаве патаемныя паслы Глінскага гаспадару нашай дзяржавы. Жыгімонт вагаўся з прыняццем рашэння, але ўрэшце рэшт вырашыў паверыць бегламу князю. Пасланцы ў сваю чаргу ад імя Глінскага раілі, каб войска Вялікага княства як мага хутчэй ішло да Дняпра. Самі ж яны са станоўчым адказам пад Воршу да Глінскага. Праз некалькі дзён Глінскі быў здраджаны , схоплены маскоўцамі і пасаджаны ў турму.

Тым часам Жыгімонт адбыў у Барысаве набажэнства і рушыў разам з войскам у накірунку Воршы. Аднак далей можна было трапіць на маскоўцаў, таму дарадцы гаспадара нашай дзяржавы ўгаварылі яго вярнуцца ў Барысаў, узяўшы з сабою чатыры тысячы вершнікаў, і закласці тут галоўную кватэру. Асноўная ж частка войска з вялікім маральным уздымам рушыла на ўсход.

1 верасня 1514 года на рацэ Друць адбыўся яшчэ адзін бой. У ім атрад І.Сапегі нанёс паражэнне тром маскоўскім палкам. У выніку бою пад Барысавам, які меў месца 27 жніўня, а таксама сутычак, што былі 28 жніўня і 1 верасня маскоўцы згубілі каля двух тысячаў жаўнераў. Шэраг важных асобаў былі ўзятыя ў палон і дастаўлены ў Барысаў да Жыгімонта.

8 верасня 1514 года пад Воршай ля ракі Крапіўна адбылася бітва, якая прынесла славу нашаму войску ва ўсёй Еўропе. Маскоўцы былі разбіты. Каля 30 - 40 тысячаў іх жаўнераў было знішчана, шмат трапіла ў палон. Аб выніках бітвы было адразу паведамлена ў Барысаў Жыгімонту. Трошкі пазней у наш горад былі дастаўлены 380 самых знатных палонных. Каб аддзякаваць Богу за такую перамогу, Жыгімонт разам са ўсімі сваімі людзьмі, войскам і палоннымі рушыў з Барысава да бліжэйшага касцёлу, які быў у мястэчку Гайна (цяпер Гайна - вёска ў Лагойскім раёне). Там ён тры дні весяліўся і адбываў набажэнствы.

Далейшыя вайсковыя дзеянні паміж Вялікім княствам і Масковіяй, што мелі месца ў 1514 годзе, прывялі да вызвалення Дуброўны, Мсціслаўля і Крычава. Смаленск застаўся за маскоўцамі.

*(Працяг будзе)*

***М.Мацельскі.***

# Хто яны - турысты?

Арганізаваны турызм на Барысаўшчыне існуе некалькі дзесяцігоддзяў. Калі азірнуцца на пройдзены за гэты час шлях, то само па сабе ўзнікае пытанне, а з чаго ўсё пачыналася?

Больш за трыццаць год таму - у 1966 годзе пры доме піянераў быў створаны гурток юных турыстаў. Тады і быў праведзены першы трохдзённы лыжны паход на здачу норм значка "Турыст СССР". Менавіта гэты паход можна лічыць пунктам адліку турызму ў нашым горадзе, а ўдзельнікаў гэтага пахода - першымі "арганізаванымі" турыстамі Барысава. Не адзін год прайшоў, пакуль з'явіліся людзі, якія былі падрыхтаваны да больш складаных падарожжаў і маглі павесці за сабой іншых.

У 1973 годзе Таццяна Няжданава і Віктар Казінін правялі паходы першай катэгорыі складанасці па Карэліі, у 1974 годзе Леанід Карнач - па Цяньшані. У 1976 годзе Уладзімір Карасік і Валянціна Бабіцкая правялі першыя велапаходы. Дарэчы, велатурысты зараз найбольш трывала і моцна трымаюць свой узровень. Гэты від турызму мае найбольш прыхільнікаў.

У 1976 годзе быў заснаваны першы турысцкі клуб "Багульнік" пры заводзе "Аўтагідраўзмацняльнік". Яго старшынёй стаў Павел Казак. У 1977 годзе праведзены першы водны паход на раку Лаваць. Кіраўнік пахода Уладзімір Шпунт. 25 снежня 1978 года на паседжанні абласной маршрутна-кваліфікацыйнай камісіі (МКК) было вырашана стварыць Барысаўскую гарадскую МКК. Хаця дзейнасць тутэйшай камісіі ўспрымалася раней і ўспрымаецца зараз шмат кім неадназначна, само яе ўтварэнне сведчыць аб прызнанні развіцця турызму ў Барысаве. 5 кастрычніка 1978 года адбыўся ўстаноўчы пленум турыстаў Барысава. На ім быў утвораны гарадскі турклуб, выбрана яго праўленне. Старшынёй клуба стаў Жукоўскі Аляксандр. Спачатку турысты збіраліся ў інтэрнаце пластмасавага завода па вуліцы Гагарына. З 1980 года па сённяшні час турклуб знаходзіцца па вуліцы Чапаева, 29.

Перыяд з 1983 па 1991 год лічыцца самым плённым для турызма нашага горада. У гэты перыяд клуб праводзіў штогадова па 40 катэгарыйных паходаў, шмат спаборніцтваў.

З 1993 года па 1996 год назіраўся спад актыўнасці. Так, у 1996 годзе афіцыйна не зарэгістравана ніводнага пахода. Распад імперыі, які быў паскораны распадам сістэмы, суправаджаўся пераацэнкай каштоўнасцей, ідэалаў. У гэты час знікла матэрыяльная падтрымка турызму. У выніку ўзнікнення "гарачых кропак", вялікага кошту дарогі ды проста новых межаў - узніклі складанасці ў правядзенні паходаў па традыцыйных маршрутах. Аднак і тады людзі збіраліся і хадзілі па свеце. Хадзілі без афармлення ў МКК - дзеля сябе, а не для справаздачнасці. У гэты час з'явіліся новыя формы паходаў - так званыя камерцыйныя паходы, паявіліся новыя магчымасці здзяйсняць паходы ў Польшчу, Нямеччыну, Францыю і іншыя краіны свету.



І ўсё ж, нягледзячы на тое, што адбывалася ў сценах клуба і тыя змены часу, адзінае што бясспрэчна - тыя намаганні людзей, якія ўнеслі свой уклад у развіццё турызму ў горадзе. Сярод іх Панцюхоў Мікалай. Ён быў першым сярод першых. І сёння яго можна ўбачыць на спаборніцтвах. Калачоў Аляксандр. З імем гэтага чалавека прыходзіць на памяць усё, што звязана з турызмам у горадзе. Нельга не назваць такіх імён як Віктар Казінін, Анатолій Ліхавы, Уладзімір Шпунт, Вольга Антонава, Уладзімір Каролік, Васілій Казак, Сяргей Лісун, Сяргей Голуб і многіх іншых.

Дык хто ж яны, турысты? Калі вы не ведаеце паху дыму вогнішча, калі вам незнаёма адчуванне бязмежнай стомленасці ад спёкі і смагі, калі ў вас не сціскалася на схіле гары ад хвалявання сэрца, калі вы не мерзлі з інеем на твары ў «снежных норах», калі не бачылі, як вялікі вогнены чырвоны шар уздымаецца над краямі зямлі, - вам будзе цяжка зразумець, хто яны - турысты.

***В Пчолка.***

# Беларускі характар

*Добра вядома, што кожны народ мае свае адметнасці, свой нацыянальны характар. А які ён у беларусаў? Давайце разам самакрытычна паглядзім на тое, як ён адлюстроўваецца ў анекдотах.*

Аднойчы летам па дарозе ехаў пан на сваёй брычцы і ў яго на шляху аказаўся беларус, у якога зламалася нешта ў возе. Пан крычыць яму злосна:
- А ну, прэч з дарогі, дурань!
Мужык хуценька і моўчкі вызваліў дарогу. Скончылася лета, прайшла восень, наступіла зіма. Мужык ляжаў на печы, раптам схамянуўся, падбег да стала і, моцна стукнуўшы па ім кулаком, як закрычыць:
- Сам дурань!



Двое бандытаў напалі на беларуса і пачалі яго пужаць:
- Вось зараз мы з цябе мякіну зробім, бульбаш недарэзаны, кішкі з цябе выпусцім, прыб'ём на гэтым месцы!
Той у адказ:
- Хлопчыкі, даражэнькія, што хочаце рабіце, можаце біць, а можаце і забіць, але толькі б вам добра было...



Ідзе па вуліцы беларус і ласуецца марозівам. Раптам нехта зверху вылівае яму на галаву вядро памыяў. Небарака, аднявшы ад рота ласунак і задраўшы галаву, кажа:
- Во, а калі б чалавек ішоў?!



*Падрыхтаваў Л.Гадун.*

## Цудоўна з сонейкам у жыцці

*А.Пятрова*

З-за лесу, што на гарызонце,
Прабіўся першы промень сонца.
Такі маленечкі, нясмелы,
З адценнем краю жоўта-белым.
На чорна-сінім небакраі.
Пакрыху дзень ступае краем,
Каб не спалохаць ненарокам
Ноч, што адходзіць крок за крокам.
Праменьчык зззяе так рашуча,
Аж на яго глядзець балюча.
Аранжавы, крыху крывавы
З расой жартуе для забавы.
Раса - нябесныя каралі,
Якія зоркі пагубілі.
Іх ноч шукала, не знайшла,
Таму і змрочная пайшла.
Тут шустры промень скок у бок,
Сабраў каралі і наўцёк!
Ты, сонца, грэй, ярчэй свяці!
Дай больш дзён светлых у жыцці.
Алмазным бляскам упрыгож.
Вясёлкавы праліўся дождж...
І ўсё ж!...
Цудоўна з сонейкам на свеце!
Ці так? Хто мне адкажа, дзеці?!

# Музычны бамонд

У Барысаве шмат таленавітай моладзі. Асобныя з іх маюць і выдатныя музычныя здольнасці. Таму зараз у горадзе рэпетыруе і калі-нікалі дае канцэрты каля дзесятка маладзёжных гуртоў.

Часта яны працуюць толькі для сабе, не маючы магчымасці ці жадання прапанаваць вынікі сваёй творчасці шырокім колам музаматараў. Існуе таксама шмат так званых груп-аднадзёнак. Таму зараз цяжка дакладна сказаць, колькі калектываў стварае «сваю музыку».

Кожная група, перад тым як пачаць рэпетыраваць, вырашае для сабе, у якім стылі яны будуць іграць. Больш за ўсё ў Барысаве «металістаў». У залежнасці ад таго што яны граюць - DOOM, DEZ ці BLACK-метал іх адпаведна клічуць думеры, дэзеры і блэкеры. У стылі «метал» у горадзе ствараюць музыку групы «Грошы», «Астра», «7 канон». Першыя дзве групы маюць у сваім активе некалькі ўдалых канцэртаў.

На жаль, нічога невядома пра групы, якія ігралі б музыку хіпі ці што-небудзь з сучасных напрамкаў. Такіх, як хаўс або індастрал.

Цэлы рад груп стварае музыку нявызначымага стыля. Як яе назваў адзін мой знаёмы «музыка для панкаў». У гэтай сферы працуюць гурты «Разгром», «Кайфаскеды», «Негатыў». Гэтыя гурты дастаткова вядомыя ў горадзе.

Існуе ў горадзе і «музычны фенамен» - рэперскі гурт «Нестандартны варыянт». Гэты калектыў больш вядомы ў рэспубліцы, чым у горадзе. Звесткі пра яго можна знайсці і ў дастаткова папулярнай сярод моладзі «Музычнай газеце».

Некалькі год таму мне пашчасціла слухаць мясцовы беларускамоўны гурт «Кубічны дол». Нягледзячы на тое, што хлопцы сабраліся зусім нядаўна, музыка, якую яны ігралі, і словы песняў былі выдатнай якасці. Шкада, але з таго часу я ніколі больш не чуў пра іх.

Зараз амаль ва ўсіх барысаўскіх гуртоў не хапае інфармацыі аб дзейнасці іх калег, яны не маюць неабходнага досведу ў плане арганізацыі музычных мерапрыемстваў. Таму я прапаную зрабіць агульнагарадскую «базу дадзеных» аб музычных гуртах горада. Просьба да ўсіх, хто мае нейкія звесткі аб гуртах горада ці нейкіх музычных мерапрыемствах, звязацца з рэдакцыяй.

*С.Нялюбін.*



# Увага, конкурс!

Газета «Гоман Барысаўшчыны» абвяшчае конкурс сярод школьнікаў Барысава і Барысаўскага раёна на лепшы фотаздымак ці артыкул. Іх тэматыка можа быць самая разнастайная. Напрыклад, любы цікавы момант, гісторыя, сведкамі або ўдзельнікам якой вы былі, ці нешта іншае. Максімальны памер артыкула - не болей за палову машынапіснай старонкі.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі. Лісты на конкурс з фотаздымкамі і артыкуламі дасылайце да 25 траўня 2000 года на адрас: 222120, Барысаў-1, а/с 43.

Сёння ж мы друкуем першую конкурсную фотакартку.

**Жадаем поспехаў!**



Фота Свірскага Андрэя (12 год, 12 СШ)

# Усё на ёй, усё на ёй, усё на бабулі маёй

1999 год - год сталага чалавека. У кожнага з іх вялікае і цікавае жыццё з радасцямі і смуткам.

Маёй любімай бабулі Лехавай Дзіне Іванаўне 66 год. Раней яна працавала выкладчыкам французскай мовы, потым у дзіцячым садку. Але гэта было даўно. Цяпер яе клопаты - дом, сям'я, унукі. Бабуля наша і шэф - повар, і галоўны аграном, і лепшы сябар. Мая бабуля самая лепшая ў свеце. Колькі яна ведае казак - пра Калабка, Папялушцы,Ката Матроскіна, Вініпуха, Цара Салтана і інш. Мы з сястрычкай Танечкай упершыню пачулі іх ад яе. Маляваць, чытаць, пісаць навучыла мяне таксама бабуля Дзіна.

Шкада, што вельмі часта хварэюць нашы бабулі. Мне вельмі хочацца, каб мая і ўсе іншыя бабулі на свеце былі заўсёды вясёлымі і здаровымі. Яны дапамагаюць нам зразумець і палюбіць свет, у якім нам жыць.

*Качан Люба, 12 год.*




Мал. Л.Гадуна

# Крыжаванка

Адгадайце дзесяць слоў, што размешчаны па гарызанталі. Пасля гэтага вызначыце прозвішча аднаго з бліжэйшых паплечнікаў К.Каліноўскага, які нарадзіўся на Барысаўшчыне і меў тут маёнтак (**1 па вертыкалі**).

**Па гарызанталі:** 2 - рака, якая ўпадае ў возера Пялік; 3 - назва, якую маюць вёска і рака на Барысаўшчыне; 4 - вуліца каля рачной прыстані ў Барысаве; 5 - рэстаран у Барысаве; 6 - мікраён ў Барысаве; 7 - вуліца ў раёне Новабарысаўскага базара; 8 - гістарычная назва вёскі Маячная; 9 - вёска прыгараднага сельсавета; 10 - прыток Мужанкі; 11 - кінатэатр у Барысаве.




**Адказы на крыжаванку**, што была змешчана ў «ГБ» №1(5): 2 - Гара; 3 - Гайна; 4 - Камсамольская; 5 - Неманіца; 6 - Мінская; 7 - Клюднеўка; 8 - Барысаўская; 9 - Князь; 10 - Пліса; 1 - Краснянскі.

# Ці ведаеце вы, што...

**Па стану на 1886 год найвялікшымі населенымі пунктамі ў нашым краі без уліку Барысава з'яўляліся:**

**Вяляцічы - 1070** жыхароў, **130** двароў;

**Аздзяцічы -1059** жых., **100** дв.;

**Кішчына Слабада -840** жых., **62** дв.;

**Лошніца - 834** жых., **143** дв.;

**Сморкі -758** жых., **92** дв.;

**Гліўіна - 612** жых., **81** дв.;

**Кастрыца - 560** жых., **60** дв.;

**Бытча - 488** жых., **59** дв.;

**Вялікія Негнавічы - 420** жых., **71** дв.;

**Валокі - 384** жых., **59** дв.;

**Жыцькава - 340** жых., **51** дв.;

**Неманіца - 336** жых., **46** дв.;

**Зачысце - 328** жых., **41** дв.;

**Дзядзілавічы - 328** жых., **30** дв.;

**Карсакавічы - 274** жых., **22** дв.;

**Ратуцічы - 214** жых., **30** дв.;

**Бродаўка - 200** жых., **21** дв.;

**Кімія - 190** жых., **22** дв.;

**Барань - 170** жых., **29** дв.;

**Брод - 166** жых., **17** дв.;

**Замошша - 136** жых., **14** дв.;

**Зембін - 110** жых., **15** дв.

Для параўнання - насельніцтва **Жодзіна** на той час складала **470** чалавек (**48** двароў), **Смалявіч - 560** чалавек (**56** двароў).

## Увага!

Рэдакцыя газеты «Гоман Барысаўшчыны» са здавальненнем паведамляе сваім чытачам, што, пачынаючы з гэтага нумара, газета будзе выходзіць штомесячна. Пытайцеся яе ў кіёсках Белсаюздруку і ў грамадскіх распаўсюджвальнікаў.

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі:
І.Белы,
У.Буйко,
У.Дубаневіч,
М.Мацельскі,
М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 18.30 26.09.99 г.
Замова №
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*